МАСАВАЯ БІБЛІЯТЭКА

Я. КОЛАС

# АПАВЯДАННІ










ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА пры СНК БССР
РЭДАКЦЫЯ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ
МІНСК—1940

ЗМЕСТ





НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ
Я. Колас. Рассказы
Государственное Издательство при СНК БССР. Минск 1940 г

Адказны за выпуск *Казачонак*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Карэктар *Адамовіч*

Здана ў набор 22|II—40 г. Падпісана да друку 5|IV-40 г. Аб'ём ¾ друкав. арк. Папера 70×108/32 Знакаў у друк. арк. 41.220 Тыраж 5.000 экз. Зак. № 225. Уп. Галоўліта БССР № Ф—2696.

Друкарня імя Сталіна. Мінск. Дом Друку

# СОЦКІ ПАДВЁЎ

## I

Важна ходзіць па мястэчку ўраднік[1], пакручваючы рыжыя вусы. Пры баку ў яго целяпаецца трапло-шабля, чырванеюць шнуры і наплечнікі, і блішчаць на сонцы наваксаваныя боты. Ён толькі што прыехаў на службу; у яго галаве мітусяцца тысячы думак,—думак аб тым, як звясці крамолу[2]. Яму толькі што данёс стражнік[3], што ў вёсцы Галадранцы нядаўна з'явіўся падазроны чалавек. А раз чалавек падазроны, то ён, напэўна, соцыяліст[4], або, па меншай меры, забастоўшчык. І ўрадніцкая галава строіць замыславатыя планы,

---

[1] Ніжні чын былой царскай паліцыі. Ураднікі былі непасрэднымі памочнікамі станавых прыставаў, у прыватнасці па кіраўніцтву на мясцах соцкімі і дзесяцкімі.

[2] Загавор, мяцеж.

[3] Ніжні чын павятовай паліцыі.

[4] Чалавек, які выступае за замену класавага капіталістычнага грамадства бяскласавым соцыялістычным грамадствам. У простанароддзі соцыялістам называлі ўсякага рэволюцыйна-настроенага чалавека.

тчэ хітрыя сеці, у якія павінна заблытацца крамола. Яму здаецца, што ён выкрыў «праступнае саобчаства», захапіў лісты, рэвальверы і бомбы, і ўсё гэта даставіў да начальства. Яму даюць павышэнне, пасылаюць у горад, робяць акалодачным [1], потым прыставам [2], а потым... і пайшоў наш ураднік угару, як цыган па драбінах на неба.

Пры гэтым ураднік аж засмяяўся сам сабе і ляснуў рукамі па сваіх тоўстых кумпяках.

— Гм! ты кажаш «падазрыцельны» чалавек?— пытаў вечарам ураднік сваю правую руку—гарбатага стражніка.

— Бясспрэчна падазрыцельны!—сказаў стражнік таемным, паніжаным голасам.

— І ты яго бачыў?

— Бачыў, гаспадзін ураднік. І цікава тое, што ён—малады чалавек і астрыжаны! Звычайна ўсе крамольнікі кудлатыя і абарваныя. А гэты нішто сабе адзеты, у чорнай кашулі, падпяразан шырокім поясам... Гатоў у заклад ісці, што гэта самы настаяшчы «сіцыліст».

— А ты не пытаўся аб ім? Не наводзіў справак у мужыкоў?

— Дык вам мужык так і скажа, асабліва галадранскі мужык. Гэта—гадаўё!

---

[1] Чын гарадской паліцыі. Падчынён прыставу.

[2] Паліцэйскі чыноўнік у царскай Расіі. Начальнік паліцыі ў станах, спецыяльна паліцэйскіх падраздзяленнях паветаў.

— Калі з'явіліся пракламацыі ў Галадранцы?

— На той нядзелі ў пятніцу.

— Вось што, браце,—пачаў, памаўчаўшы, ураднік голасам начальства:—заўтра ты паедзеш у Галадранку і навядзеш дакладныя спраўкі аб гэтым рэвалюцыянеры. Мы яму пакажам свабоду! Зайдзі да соцкага [1] Рамана Камлюка. Але не надта выкладай яму ўсё на талерку: трэба помніць, што ён—галадранец, забастоўшчык.

## II

— Скажы, брат,—пытаўся адзін худы, высокі, як цапільна, галадранскі селянін, гаворачы «брат» усёй грамадзе,—што гэта за чалавек? пэўна «сіцыліст!»

— Гэтакі ён «сіцыліст», як ты маёй кабыле дзядзька!—адказаў яму Андрэй Падгорны, чалавек лёгкі на язык.

Усе зарагаталі.

— А ты, мусіць, знаешся на «сіцылістах», як мая свіння на пастах?

— Разумны напаў на разумнага,—сказаў стары Базыль, не выпушчаючы з зубоў люлькі.

— Знайшлі за што сварыцца,—умяшаўся Ка-

[1] Ніжні чын сельскай паліцыі ў дарэвалюцыйнай Расіі (выбарчая мірская павіннасць).

русь з-пад карчмы.—Андрэй гаворыць праўду. Ці-ж «сіцыліст» пойдзе да папа або будзе лаяць сам сябе?

Галандранскі соцкі, Раман Камлюк, замысліў, як відаць, нешта хітрае, бо засмяяўся сам сабе ў доўгія вусы, але нікому не сказаў, чаго засмяяўся, і пайшоў дахаты.

Да сялянскай грамады падыходзіў Янка Дудар. Яму было надта весела, ён спяваў на ўсю вуліцу:

А ты, Янка, не зважай
На кажух падраны...

Ногі не слухалі Янкі, а ішлі, як хацелі: адна ўлева, другая ўправа, а сам Янка падаваўся то ўзад, то ўперад, то ў адзін бок, то ў другі.

Прадам бульбу, прадам жыта,
Абы было шыта-крыта...

зачаў Янка другую песню.

— Глядзі, каб не падашукалі!—перасцярог яго Андрэй Падгорны.

— Чаго ты смяешся?—накінуўся на яго Янка,—куст ты альховы! Ты знаеш, хто я? Я—дэмакрат і забастоўшчык першай гільды!... Хлопцы! браткі мае родныя! Хадзем бунтавацца...

— А вунь ураднік!—пастрашыў яго стары Базыль.

— Дзе ён?!—крыкнуў Янка, азіраючы вуліцу.— Падайце мне яго сюды!

Людзі пацяшаліся, а Янка, згарнуўшы кулакі біў імі па ветры, мясіў нагамі пясок, як-бы там ляжаў ураднік, а ён яго мясіў нагамі.

— Вось падла, Янка! глядзі ты, што ён вычварае!

Невядома, што зрабіў-бы Янка са сваім ураднікам, каб не прышла жонка. Яна трымала пад пахай мешалку.

— Вось, брат, папаўся!—жартавалі сяляне.

— Спяваў, што «няма каму бараніць», бараніся-ж сам.

— А каб ты смалы напіўся, гад!—крыкнула жанчына, і мешалка мільганула ўгары і гладка прыстала да сярэдзіны худога Янкавага цела.

— Што робіш?—крыкнуў, нібы сярдзіта, стары Базыль на Дударыху.—Не бачыш, ці што? Ён зямлі і свабоды дабіваецца людзям, а яна яго мешалкаю!

Мешалка паддала Янку сілы, і ён даволі борзда стаў на ногі.

— Арыштую!—крычаў ён на жонку:—не палагаецца насіць аружжа! У арыштанскія роты аддам па 25 стацці!

— Так, так, Янка!—падтрымлівалі яго суседзі.

— Ваенна-палявым судом судзіць буду!—буша-

ваў Янка.—Я—забастоўшчык, а ты хто? Чорнасоценец[1]! От, хто ты!—гаварыў Янка сваёй жонцы, ужо ідучы дадому.

III

— Скажы мне, Раман, што гэта ў вас за чалавек з'явіўся?—пытаў стражнік у соцкага.

— А ці я ведаю?

— Можа-ж чуў што пра яго?

— Чуць-та чуў, ці мала што людзі гавораць!

— Прызнавайся, Раман, нечага адвільваць. Што ты чуў?

Раман агледзеўся навокал і ціха сказаў:

— Соцыяліст!

— Ну?

— Такія рэчы гаворыць, што ў Сібір саслаць і то мала. Дае кніжкі і лісты раскідае. Вось пабач!

І Раман дастаў з-за пазухі пракламацыю, якую ён знайшоў два гады таму назад, будучы ў павятовым горадзе на першых выбарах.

У стражніка так і заблішчэлі вочы.

— А мужыкі яго слухаюць?

— Дзе там слухаюць!—цара лае.

— А што ён, прымерна, казаў?

— Казаў, што наш цар—дурань.

---

[1] Член контррэвалюцыйнай пагромнай арганізацыі „Саюза рускага народу“.

— Цыц!—прамовіў стражнік і азірнуўся.

— А дзе начуе ён?

— Усюды. Раз нават у папа начаваў.

— Як-та ў папа?

— Абмануў; сказаў, што яго кансісторыя[1] паслала, і нейкі знак паказаў.

— Заўтра ўначы чакай нас тут з дзесяцкімі. А калі ён ўцячэ—ты адказваць будзеш.

Стражнік вышаў, а Раман, стоячы, весела пасмейваўся...

## IV

Ціха, асцярожна краўся ўраднік са стражнікам да вёскі Галадранкі. Вёска ўжо спала. Адзінокі месяц плыў над ёю, як срэбраны круг. Абросшая вербамі, спакойна цякла рэчка каля самых хат, і дробныя хвалі, як жывыя, пераліваліся і блішчэлі на месяцы.

Соцкі і два дзесяцкіх стаялі на двары, чакаючы «начальства». Прыехаўшы да соцкага, ураднік распытаўся аб «сіцылісту». А гэты «сіцыліст» спаў сабе, як пшаніцу прадаўшы. Ён начаваў у папа.

У ўрадніка пранеслася ў галаве думка арышта-

---

[1] Орган у дарэвалюцыйнай Расіі, створаны для кіраўніцтва царквой і суда над царкоўнымі асобамі. Падпарадкаваўся архірэю.

ваць і папа за пакрыванне крамольніка. Але перадумаў і знайшоў, што не варта, бо хітры сацыяліст не толькі папа, але і чорта абмане. Апрача таго, поп скора не ўздымаецца і ўцякаць яму няма куды.

Ураднік, стражнік, соцкі і дзесяцкія ўзышлі на ганак папоўскага дома і пастукалі.

Поп вышаў босы, накінуўшы на сябе шырокі каптан.

— У чым дзела?

— У вас, бацюшка, праступнік начуе!—сказаў ураднік.

— Не можа быць!

— Аб гэтым будзем талкаваць потым... звольце паказаць, дзе ён.

Поп пабялеў і стаяў, як укапаны, толькі губы яго дрыжэлі, і ён шаптаў:

«Ад вешчы, ва цьме прахадзяшчыя, ад беса палудзеннага»...

Увайшлі ў пакой, дзе спаў «сіцыліст». А таму і гора мала: спіць сабе на баку, толькі носам свішча і храпе, як пшаніцу прадаўшы. Ураднік прыставіў да яго караул, а сам запусціў руку ў яго дарожную раменную торбу і выцягнуў цэлую жменю лісткоў. Нікому і ў галаву не прышло паглядзець, што гэта былі за лісткі.

А «сіцыліст» усё спіць—проста ўраднік не ведае, як арыштаваць соннага чалавека. На помач

яму прышоў соцкі. Ён папароў соцыяліста, як мядзведзя, кіем. Схапіўся «соцыліст», вырачыў вочы—і рукою пад падушку, дзе ляжаў рэвальвер. Тут на яго накінуліся стражнікі і дзесяцкія. Усе зляпіліся ў адзін клубок і некалькі часу мітусіліся па пакоі. У канцы адзін дзесяцкі вырваўся з гэтай кучы, паплявaў на рукі, скамандаваўшы сам сабе: «Ну, Сымон! вазьмі папраўдзе»!—згроб і стражніка і «сіцыліста», падняў іх «на жывот», потым спрытна падставіў ножку і аблажыў абодвух.

— Каторы тут з вас «сіцыліст»?—пытаў ён, седзячы наверсе.

Стражніка аслабанілі, а «сіцыліста», якому ўраднік палічыў сваім абвязкам даць у зубы за супраціўленне,—звязалі.

— Як вы смееце?—крычаў «сіцыліст».—Я—член «саюза рускага народу»[1].

— А гэта што?—паказаў урадністк на лісткі і рэвальвер.

— Цягні яго, хлопцы!

---

[1] Самая буйная чорнасоценная арганізацыя ў царскай Расіі, аснаваная ў кастрычніку 1905 г. у Пецярбургу. Аб'ядноўваў памешчыкаў, домаўладальнікаў, чыноў паліцыі, гандляроў і іншыя групы гарадскога мяшчанства. Кіруючая роля належала дваранам памешчыкам. Праграма „Саюза рускага народу": адзінства і непадзельнасць імперыі, цвёрдая царская ўлада. Арганізатар яўрэйскіх пагромаў.

— «Яко ісчэзае воск ад ліца агня»—маліўся поп.

V

«Сіцыліста» вялі па пустой вуліцы. Цікавы месяц выплыў з-за белай хмаркі і, глянуўшы на гэтую працэсію, мусіць, засароміўся людскога глупства, бо зараз-жа схаваўся ў другой хмарцы; ды яшчэ сучка старога Базыля была сведкай камедыі, што разыгралася ў Галадранцы.

Усю дарогу думаў ураднік, якую карысць на свеце прыносяць людзям ураднікі.

«От,—думаў ён,—усе спяць, а ты валачыся цэлую ноч, бойся кожны момант за сваё жыццё. Ласне тут ёсць што-небудзь труднае—дастаць сабе ў лоб кулю? А якая падзяка? Ну, прыстаў можа падаць руку і заклікаць на шклянку гарбаты».

Але дзесьці, на дне душы яго, варушыліся другія думкі, і яму прадстаўлялася цэшка і прыстаўскія наплечнікі. Стражнік, соцкі, дзесяцкія і сам «сіцыліст» таксама думалі,—кожны на свой фасон. Але трудна залезці ў чужую душу і ведаць, хто што думае. Усе маўчалі.

VI

— А ты добра зрабіў, што дагадаўся зайсці да мяне!—такімі словамі сустрэў прыстаў ўрадніка.—Бачыш, сюды прыслан член «Саюза рускага народу».

— Ваша высокаблагароддзе! Я арыштаваў і прывёў да стану «соцыяліста», аб чым і маю чэсць асабіста далажыць вам!—перабіў урадніk прыстава.

— Дзела добрае. Дзе арыштаваў?

— У Галадранцы, ваша высокаблагароддзе!

Тут прыставу нешта цюкнула. Ён глянуў на ўрадніка. Той стаяў і пазіраў на прыстава так, як-бы ён, урадніk, схапіў з неба зорку або японскага мікаду [1] забраў у палон.

— Пашпарт у яго ёсць?

— Не спраўляўся.

— Дзе арыштаваны? Пазваць сюды!

Урадніk кінуўся на двор.

Соцкі і дзесяцкі ўвялі «сіцыліста».

— Як дапушчаеце вы такое безабраззе і свавольства вашых падначаленых?! Я самому губернатару жалавацца буду! Я—член «Саюза рускага народу»! Вот мае дакументы!

— Звініце,—сказаў прыстаў «сіцылісту»,—тут абмылка.

Прыстаў грозна зірнуў на ўрадніка. Урадніk апусціў вочы і зірнуў на стражніка, стражнік—на соцкага.

Соцкі стаяў бокам і смяяўся ў рукаў.

---

[1] („Высокія вароты") старажытнейшы тытул японскага імператара.

# ЧОРТ

## I

— Братка ты мой, Іван! Ты знаеш, як я цябе люблю!!! Ну, дай—пацалуемся! Во, гэтак!.. Назавеш ты Міхася сабакаю, лайдаком, калі пачуеш ад каго, што я табе кепска мыслю.

— Братка ты мой, Міхаська! Забі мяне пярун, во тут, у гэтую ночку, на гэтай дарозе, калі я не люблю цябе! Дай і я цябе пацалую.

І сябры зноў сталі цалавацца.

Міхась і Іван—леснікі. Зайшлі яны да цёткі Хрумы і трынкнулі, што называецца. А цяпер ішлі дадому.

— Не магу, братка, ісці,—прызнаўся Іван.

— Дык што-ж мы будзем рабіць?

— Дай ляжам, паляжым.

— Ну, давай.

І яны леглі.

— Што-ж мы будзем так ляжаць?—кажа Міхась.—Давай клясці ляснічага.

Іван замармытаў нешта пад нос і... заснуў.

— Ужо спіш? Уставай, пойдзем.

— Не магу, братка.

— Садзіся мне на плечы, панясу катла.

Міхась стаў на кукішкі і падставіў спіну. Іван узяўся за плечы. Сталі падымацца. Міхась кракtaў, пяўся, а потым паваліўся спіною на Івана, і ляжаць абодва. Яны зноў абняліся. Ім здавалася, што не было і няма на свеце гэтакіх сяброў, як яны.

Паляжалі трохі. Іван захроп, як пшаніцу прадаўшы.

— Спіць,—сказаў Міхась і ўстаў.

Яму хацелася спяваць. Міхась быў чалавек вясёлы. А яшчэ быў весялейшы, як хмель пачынаў туманіць яго лахматую галаву. Тады ён быў штукар на ўсе рукі.

— І-гэ-э-э-эй ты, гарэ-э-э-э-э-лачка!—прабаваў Міхась выдумаць песню пра гарэлку. Далей нічога не мог прыдумаць і сціх.

У лесе было ціха. Толькі рэха пакацілася! І далёка-далёка панеслася «гарэ-э-лачка» і прапала недзе за гарою ў Белых Крыніцах. Аж страшна стала Міхасю.

II

Не без прычыны страшна зрабілася Міхасю: былі яны якраз недалёка ад Кірылавай магілы.

От што чуў я ад людзей пра Кірылаву магілу.

У князя Р. быў слуга Кірыла. Князь любіў ездзіць на паляванне і заўсёды браў з сабою і Кірылу. Адзін раз кажа яму князь:

— От што, каханы, я паеду да пана абедаць, а ты садзіся вярхом на каня, і колькі лесу аб'едзеш на кані, пакуль я паабедаю, увесь той лес дарую табе, бо ты добры слуга.

Падзякаваў Кірыла князю, узяў самага лепшага каня, сеў і паехаў. Каб князь бачыў, колькі ён аб'едзе, узяў ён з сабою шаблю і рабіў ёю на хвоях лысінкі.

Як пабачыў князь, колькі Кірыла лесу аб'ехаў, аж за галаву ўзяўся.

— От што, каханы,—кажа князь:—цяпер ты палезь на дуб ды паглядзі адтуль як многа ў цябе лесу.

Кірыла палез на самы верх.

Зняў князь з плеч стрэльбу.

— Ну, мой каханы, закукуй цяпер, як зязюлька.

Кірыла закукаваў.

Бух!—выстраліў князь.

І скінуўся на зямлю бедны Кірыла з прабітаю навылет галавою.

Пад тым дубам яго і пахавалі. Месца тое і стала звацца Кірылавай магілай.

І цяпер яшчэ ў тым лесе відаць на хвоях лы-

сіны. Заплылі яны смалою, і завуць іх Кірылавымі знакамі.

Расказвалі людзі, што ў поўнач каля магілы нехта плакаў, праклінаў панскую несправядлівасць...

Страшна было тут уночы.

III

Многа расказаў чуў Міхась пра чарцей. Знаў ён, што п'яных часта водзяць па лесе чэрці. Знаў, што ад іх можна адхрысціцца, і яму было і страшна і весела.

І вось Міхась, як яго хто падбіў, узяў і загукаў на ўвесь лес.

— Чэрці, трасца вашай галаве, сюды ідзіце!

Рэха панеслася па дарозе, пайшло па кругламу балоту к Белым Крыніцам і сціхла каля Кірылавай магілы.

Міхась стаяў і слухаў, як яно гудзела.

І зноў усё стала ціха.

Блішчасты месяц, як кружок залаты, стаяў ужо высока над лесам. Ціха было ў густым бары; закрыла ніз цемната. У Белых Крыніцах нудна пераклікаліся совы. Далёка-далёка, як з-пад зямлі, даносіўся сабачы брэх. І чуе Міхась: нешта загрукатала па дарозе. Прыслухаўся... Гук не сціхаў і быў ужо бліжэй. Ужо можна распа-

знаць, што нехта едзе. Колы біліся аб карэнне і скрыпелі.

Міхась пасмялеў.

Гук і скрып калёс зусім ужо блізка.

Міхась скінуў кажух, вывернуў уверх шэрсцю і накінуў на сябе. У шапку ўваткнуў дзве палачкі заміж рожак і прытуліўся пад хвояй.

Іван спаў, як забіты.

Пад'ехаў воз.

На возе ляжалі мяхі з мукой, а на мяхах сядзеў селянін. Гэта быў Пятрусь Гвозд, той самы Пятрусь, што летась украў у Міхася з лесу тры восі. Пятрусь вяртаўся з млына; боязна азіраючыся па баках, ён паганяў каня, каб хутчэй мінуць гэтае страшнае месца.

## IV

— Стой!—крыкнуў Міхась, выскачыўшы з-пад хвоі, і схапіў каня за вобруць.

Пятрусь так і абамлеў.

— Дык вось ён які чорт!—падумаў Пятрусь.— Што-ж тут рабіць?

«Чорт» стаяў і не даваў дарогі.

Пятрусь трохі апомніўся. Да яго вярнуўся язык і памяць.

— Уцякай з дарогі, бо канём раздушу!

— Як? ты мяне з дарогі гоніш?

— Уцякай, кажу, а то яшчэ і нюхаўку паб'ю!

— Ты мне? Да ты ведаеш, хто я?

— Ну, хто-ж ты?

— Ага! Хто я? Папрабуй выцяць...

Пятрусь ужо падняў пугу, але не асмеліўся выцяць «чорта».

— Ну, годзе! пайшоў з дарогі!

— Не, не пайду!

— Чаго ты прывязаўся, як смала? Згінь, прападзі!

Але «чорт» не гінуў.

Пакуль яны крычалі, конь пачуў волю і стаў памаленьку заварачвацца назад, шчыплючы траву. У сварцы Пятрусь зусім не бачыў, што конь яго завярнуўся.

А Міхась як падскочыць да Пятруся ды як запішчыць! Ды так моцна, што аж Іван падняў галаву. А конь шчыпаў траву каля Івана. Як заварушыўся Іван—конь спудзіўся і паскакаў назад у млын.

Га-га-га-га!..—зарагатаў Міхась (ён чуў, што чорт рагоча, падмануўшы чалавека). Пятрусь і не думаў спыняць каня, скарэй-бы ад гэтага нячыстага месца!

Але як ён дзівіўся, калі зноў прыехаў у млын.

А назаўтра Пятрусь Гвозд усім, як у звон, званіў, што бачыў чорта каля Кірылавай магілы.

## АРЫНІНА ПЕРАМОГА

### I

Арынцы было пяць год, калі яе бацьку забралі на вайну з немцамі.

Яна добра памятае той дзень. Такая сумятня была ў іх вёсцы. Плакалі мацяркі і жонкі, выпраўляючы сваіх сыноў і мужоў. Плакала і Арынчына маці, ідучы поруч з Панасам. Панас, Арынчын бацька, нёс на руках яе і меншага брата Арынчынага, Алеся. А на руках у маткі была маленькая Зоська. Арынцы трохі няёмка было такой «вялікай» на бацькавай руцэ. Але яна не пратэставала, бо тут, відаць, трэба было. Туліў бацька да шырокіх грудзей Арынку і Алеся і цалаваў іх, а ў самога былі слёзы на вачах. Прадчуваў, мусібыць, што не вернецца з вайны.

У дванаццаць гадоў засталася Арынка сіратою. Калі яшчэ жыва была маці, то хоць і цяжка было ім, але сяк-так перабіваліся, і ўдваіх лягчэй гаравалася. Адно толькі можа было шчасце, што Алесь і Зоська паўміралі раней, і засталася

Арынка адна-адненькая. Усю-ж яе маёмасць, хібарку-хату, хлявец і чатыры дзесяціны зямлі, сваякі паразбіралі. А дзядзька Сымон, старэйшы брат Апанасаў, забраўшы зямлю, узяў да сябе і Арынку. Нясоладка жылося ёй у дзядзькі. Свая сям'я вялікая, і тут яна аказалася лішняю. А потым дзядзька Сымон аддаў Арынку служыць на хутар, да заможніка-кулака Трахіма Гармізы.

А час быў такі бурны, неспакойны, трывожны—рэвалюцыя, вайна, але Арынчына жыццё не мянялася—цяжка было ёй, і не было каму заступіцца за яе. Не лепш, як у дзядзькі, было ёй і ў Гармізы. Адна толькі пацеха, што Гарміза—чалавек чужы, не так хоць крыўдна. Умеў Гарміза чужымі рукамі нажывацца, да работы прынявольваць, ды яшчэ і папікаць Арынку сваім хлебам і сваёю кулацкаю ласкаю. Цярпела Арынка, не бачачы свету за работаю, і маўкліва зносіла несправядлівасць. Горка было і крыўдна: Гармізавы дочкі ў школах вучыліся, шукалі яшчэ лягчэйшага хлеба, хоць жылося ім і так не кепска—позна ўставалі, елі смачна, хадзілі чыста адзетыя, па добрай волі рабілі работу. Арынка-ж да ўсходу сонца падымалася з пасцелі, са свайго бярложка за печчу ў кухні, апошняю клалася спаць. Хадзіла летам босая, зімой у лапцях, у старых неданосках, з патрэсканаю ску-

раю на руках, з заскарузлымі ад работы пальцамі. У няспыннай рабоце, не ведаючы адпачынку, у слепаце і цемнаце праходзіла яе дзявоцтва. Яна ведала, што сіротам цяжка жыць на свеце, але глухі пратэст падымаўся ў яе сэрцы супроць такой няпраўды. З зайдрасцю і са злосцю пазірала яна спотайку на Гармізавых дачок: яны вучацца, чытаюць кніжкі, камандуюць ёю. А чым яна горш за ўсіх? У лужыну часамі, замест люстэрачка, паглядзіцца Арынка і катэгарычна прызнаецца сама сабе: «адзеньце мяне так, як адзеты вы, да навучыце мяне грамаце—я вас за пояс заткну». Ды што ты зробіш? Каму паскардзішся?

II

Бурнае разводдзе людскога жыцця ўваходзіла ў новыя берагі. І немцы, і белапалякі, і бандыцтва засталося ззаду. Усталявалася совецкая ўлада. Добрыя чуткі сталі даходзіць да Арыніных вушэй. Совецкая ўлада заступаецца за беднату, за абяздоленую голь, за батрацтва. І жыццё, як заўважыла Арына, і людзі навокал яе—пацвярджалі гэтыя чуткі. На самым Гармізу адбіваліся подыхі новага жыцця. Адбіваліся яны і на Гармізавых дочках. І Гарміза і дочкі яго відавочна пахмурнелі. Абрэзалі Гармізаў хутар, а яго зямлёю надзялілі двух беднякоў.

— Гэта парадак на свеце?—злосна бубніў Гарміза:—што я нажыў потам і крывавым мазалём, забіраюць ад мяне.

І скрыва паглядаў на Арынку, але ў вочы стаў лагоднейшы з ёю.

А праз колькі дзён нават і ў гутарку ўступіў з ёю.

— Служыш ты ўжо, Арынка, у нас пяты год і служыш сумленна. Трэба трохі табе і пенсію падбавіць. Вось табе гасцінца 10 рублёў, а з гэтага часу буду плаціць табе на два рублі болей, а ўсяго буду плаціць у месяц чатыры рублі. Можа і цяжка часам было, то ты ўжо не крыўдуй, Арынка.

Здзівілася Арынка і слоў не знайшла, як сказаць яму.

Але хітры кулак падкупіў маладое дзявочае сэрца. Яна-ж цяпер адразу багатаю стала.

І пачала яна разважаць, чаму Гарміза так раптам падабрэў? Можа і сапраўды ён не такі ўжо ліхі чалавек, якім лічыла яна яго дагэтуль? Так і не дадумалася Арынка, чым растлумачыць Гармізаву змену. Напэўна тут нешта ёсць, думала дзяўчына, і на думку ёй прыходзіла савецкая ўлада.

Але справа скора высветлілася.

Праз колькі дзён прышла на Гармізаў хутар маладая жанчына з партфелем спецыяльна для

таго, каб пагаварыць з Арынаю. Арына дужа здзівілася, а Гарміза моцна спалохаўся. Яшчэ больш цікава было Арынцы: чаго спалохаўся яе гаспадар, чалавек з шырокаю спіною, з тоўстым як у вала, каркам, гэтай маладой і зусім на выгляд нястрашнай жанчыны. Наадварот, мужчыну, па-настаяшчаму, прыемна павінна быць пабачыць такую жанчыну. Але Гарміза спалохаўся не дарма: маладая жанчына, Ульяна Кубеліч, была не хто іншая, як прадстаўнік рабачкома ад сельсовета.

Павёў Гарміза Ульяну ў святліцу.

— У вас ёсць работніца,— адразу і па-дзеламу прыступіла Ульяна Кубеліч да справы, узяўшы карандаш і паперы з партфеля.

— Ёсць,—ціха адказаў Гарміза.

— А колькі яна ўжо працуе ў вас?

— А ўжо пяты год.

— А колькі ёй гадоў?—дапытвалася Кубеліч.

— Да ўжо, мусіць, гадоў восемнаццаць ці каля гэтага,—нясмела адказаў Гарміза і, ажывіўшыся, казаў далей:

— Я ўзяў яе зусім падлеткам. Сірата-ж яна. Проста з жаласці ўзяў. У мяне яна расла і гадавалася.

— Ну, але яна ў вас была і за работніцу?

— Вядома-ж рабіла работу, як робяць мае дзеці.

— Дык вы, што-ж, на правах дачкі трымалі яе?—пацікавілася Ульяна.

— Ды бадай што так.

Ульяна паглядзела на Гармізу. Тонкая ўсмешка прабегла па яе губах.

— Як зваць яе?

— Арына.

— Паклічце яе сюды, а самі выйдзіце,—тонам загаду сказала Ульяна.

«Ось ты чорт цябе вазьмі: прышла сабе ў хату і распараджаецца тут». Але аслухацца грознай жанчыны з партфелем Гарміза не пасмеў.

— Мяне вы клікалі?—запытала Арына, увайшоўшы ў святліцу і са здзіўленнем пазіраючы на Ульяну.

— Так, мілая.

— А хто-ж вы такая?

— А я з рабачкома, упаўнаважаная ад сельсовета. Абследую становішча батракоў, работніц і работнікаў у прыватных гаспадарках. Сядайце.

— Нічога, пастаю.

— Ці мала настаялася?—лагодна запытала Ульяна.

— Ну, што-ж? Такое наша шчасце.

— Ты мыляешся Арынка. Сядай, пагутарым... Падробна распытала Ульяна пра Арыніну службу, жыццё, заработак, пра выхадныя дні. Праўдзіва адказвала ёй Арына, не ўтаіўшы на-

ват і тых дзесяць рублёў Гармізавай нагароды і тых двух рублёў надбаўкі, што абяцаў ёй Гарміза. Ульяна ўсё запісвала.

— Вось як гэта добра—умець запісаць,— сказала Арынка, пазіраючы, як піша Ульяна, і журботна паківала галавою.

— А ты непісьменная?

— А дзе-ж мне быць пісьменнай?

— А Гарміза-ж казаў, што ты амаль на правах яго дочкі жыла?

Арына паглядзела на Ульяну, і гэты погляд казаў:

— Гаварыць можна што хочаш.

Яны зразумелі адна адну і ўсміхнуліся.

III

Ульянін візіт на Гармізаў хутар быў паваротным пунктам у Арыніным жыцці. Па-першае, Арына пераканалася, што праўда на свеце ёсць, па-другое, што совецкая ўлада сапраўды абараняе інтарэсы бедnаты і не дазваляе, каб яе крыўдзіла і эксплаатавала markе людское павучча. А вынікам усяго гэтага была справядлівая ацэнка Арынчынай працы ў Гармізы і яе аплата: Гарміза павінен быў справіць Арыне абутак, поўны камплект адзежы, выплаціць ёй трыста рублёў ды даць яшчэ пры разлічэнні па дзесяць рублёў за тры месяцы.

Абутая, адзетая, з грашыма ў кішэні, горда ішла Арынка з Гармізавага хутара, маладая, прыгожая, вясёлая, з высока паднятаю галавою. Не: совецкая ўлада не дасць ёй згінуць!

Апынулася Арынка ў горадзе. У іншы круг людзей, у новае кола інтарэсаў трапіла яна. Прынялі Арынку на фабрыку. Пачала яна хадзіць на сходы, даклады і спрэчкі слухаць, і стала святлець у яе вачах, і гэты свет зусім паіншаму раскрываўся перад ёй. І старанная-ж была яна работніца. Калі ранейшая праца яе была паднявольная, то цяпер працавала яна свядома, рупліва, старанна, бо ведала, для чаго, навошта працуе.

Але самае важнае тут было вось што: пачала Арынка ліквідаваць сваю непісьменнасць. Наўперад ёй было трохі страшна, калі іх, непісьменных людзей рознага полу і ўзросту, сабралі ў цэлую групу, калі прышоў настаўнік, малады студэнт, ды разлажыў лозунгі, плакаты і розныя кнігі. І дзіўна было тое, што настаўнік адразу пачаў з чытання цэлых сказаў. Пазірала Арынка на невядомыя ёй значкі, што азначалі цэлыя словы, і чытала разам з другімі, нічога не разумеючы. Запаміналі сказы, пазнавалі словы ў гэтых сказах, прыглядаліся да іх. Страшна было, цяжка і незразумела. Але ў далейшым гэтыя

словы і гэтыя літары-значкі станавіліся больш знаёмымі. Памаленьку, патрошку раскрывалася таямніца чытання, граматы...

---

Прайшло тры месяцы часу.

Ехала Арынка ў падшэфны калгас. Дзве станцыі трэба было ехаць цягніком. Апрача Арынкі былі тут яшчэ тры рабочыя і адна работніца з іх брыгады. А ў вагоне былі розныя людзі. Курылі здорава. Арынка-ж чытала ўсё, што пападалася ёй на вочы. І бачыць яна надпіс угары над дзвярыма вагона: «Для некурашчых». Марудна, павольна прачытала яна надпіс, прачытала яшчэ раз, зірнула на курцоў. Праўду сказаць, курцы ўжо і не так заміналі ёй, і табачны дым не быў ёй праціўны. Але Арынка не магла стрымацца, каб не выкарыстаць сваёй пісьменнасці і права пратэставаць супроць курцоў у вагоне для некурашчых. Яна важна падышла да курцоў.

— Таварышы!—сказала яна:—паглядзіце, што там напісана?—і паказала пальцам на надпіс. Курцы, хоць і ведалі, што ёсць тут гэты надпіс, але паднялі галовы, паглядзелі на яго і моўчкі спынілі курэнне.

Гэта была першая поўная Арынкіна радасць і вялікая перамога.

---



